БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЕЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

12 лістапада 1994 г.
Субота
№ 121 (13838)
Кошт у розніцу 40 рублёў
Выдаецца з 1921 года




Малюе Віктар ДУБОВІК

## Кур'ер "ЧЗ"



Больш чым 150 тысяч аўтамабіляў маркі "ГАЗ" ужо калясіць па дарогах Беларусі. Гэта дзве трэці аўтапарка рэспублікі. А хутка на нашых трасах з'явіцца яшчэ адна газаўская навінка — аўтамабіль ГАЗ-33021 "ГАЗель" грузападымальнасцю 1,5 тоны, прэзентацыю якога ў беларускай сталіцы правяло акцыянернае таварыства "БелГАЗаўтасервіс". "ГАЗель" зможа выконваць многія задачы: санітарнага і рэанімацыйнага аўтамабіля, фермерскага грузавіка, халадзільніка на калёсах, мікрааўтобуса: будзе вырабляцца каля дваццаці мадыфікацый гэтай аўтамашыны.

Фота Генадзя СЯМЁНАВА.

### РЭСПУБЛІКА ЖАБРАКОЎ

*Паводле звестак Дзяржкамстата рэспублікі, самая высокая сярэднемесячная заработная плата ў верасні бягучага года была ў работнікаў будаўнічых арганізацый — 152368 рублёў, прычым, па гэтым паказчыку будаўнікі прыкметна абагналі ўсе астатнія катэгорыі працуючых.*

Самай нізкай аказалася заработная плата работнікаў сацыяльнага забеспячэння — 61809 рублёў. Як заўсёды ў аўтсайдэрах апынуліся работнікі мастацтва, культуры, аховы здароўя.

Дарэчы, больш як пяць мільёнаў чалавек маюць даходы ніжэй за пражытачны мінімум. Гэта значыць, што больш як палова ўсіх жыхароў рэспублікі жывуць за рысай беднасці.

### ШТО НАША ЖЫЦЦЁ?

*За восем месяцаў гэтага года ў рэспубліцы скончыў самагубствам 2231 чалавек.*

У параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года колькасць суіцыдаў узрасла амаль на 8 працэнтаў. Найбольшая колькасць самазабойстваў зафіксавана ў Мінскай і Віцебскай абласцях. Гэтыя ж вобласці лідзіруюць і па колькасці забойстваў. Дарэчы, па ўласнай волі звесці рахункі з жыццём жадаючых намнога больш, чым тых, хто пакінуў гэты свет па волі злачынцаў. Так, за аналагічны перыяд бягучага года ў рэспубліцы забіта 699 чалавек.

БЕЛІНФАРМ.

### СТУЖКА ПАМЯЦІ

*У гады Вялікай Айчыннай у Татарыі было сфарміравана некалькі дывізій, якія ўдзельнічалі ў баях на тэрыторыі Дубровенскага і Аршанскага раёнаў. Да 50-годдзя Перамогі група студэнтаў Казанскага універсітэта стварае тэлефільм, прысвечаны воінам-татарам.*

Студэнты пабывалі на Дубровеншчыне і Аршаншчыне, сустрэліся са сведкамі баёў. Фільм раскажа пра тое, як беларусы ўшаноўваюць памяць сыноў Татарыі.

Ісак КОГАН.

### КАЛІ МАЕШ РАЦЫЮ...

*Калі ў цябе на агародзе ёсць "Раса", неабавязкова бегчы да суседа, каб падзяліцца апошнімі навінамі. Гавары, і сусед цябе пачуе, вядома, калі ён таксама мае рацыю... "Раса"— комплекс пераносных радыёстанцый, распрацаваны фірмай "Лёс", што ў пасёлку Барань Віцебскай вобласці.*

Сістэмы радыёсувязі калектыўнага карыстання плануецца заснаваць у Оршы і Віцебску, устанавіўшы дыспетчарскую сувязь з персанальным выклікам у Оршы, Барані, Талачыне, Дуброўна і Балабасава...

Уладзімір МІХНО.

### ДАКРАНУЦЦА ДА ГІСТОРЫІ

*Ва Ушацкай цэнтральнай раённай бібліятэцы адкрылася кніжная выстава "Помнікі нашай мінуўшчыны".*

Раздзел "Літаратура старажытнага часу" знаёміць з матэрыяламі аб кнігадрукаванні, са старажытнымі кнігамі. А ў раздзеле "Матэрыяльная і духоўная культура беларусаў" можна ўбачыць колішнія абрусы, вышываныя ручнікі, сурвэткі, гліняныя гарлачы, качалкі.

Уладзімір МІХНО.

### ЛІСТАПАДАЎСКАЯ РОК-ІМПРЭЗА

*У палацы Белсаўпрофа адбыўся канцэрт-прэзентацыя новых музычных праграм вядомых беларускіх рок-гуртоў, "Новае неба, "Палац", "Зарціпо" і "Крама".*

Утульная зала будынка была цалкам запоўнена. Гэта і зразумела, бо такія імпрэзы па-ранейшаму рэдкасць у сталіцы рэспублікі. На сённяшні дзень у Мінску няма ніводнага пастаянна дзеючага рок-клуба.

Спонсарам мерапрыемства выступіла фірма "Дайнова".

Уладзімір СТАРАСЦЕНКА.

### ГАЗ З АДХОДАЎ

*Салігорская навукова-вытворчая фірма "Грэйп" распрацавала ўстаноўку, якая дае магчымасць атрымаць экалагічна чыстыя ўгнаенні і газ для бытавога і прамысловага выкарыстання.*

Пры дапамозе ўстаноўкі атрымаць усё гэта можна... з адходаў жывёлагадоўлі.

Вячаслаў ІШЧАНКА.

### "ВАЙНА" Ў САЎГАСЕ

*У саўгасе "Рудакова" Віцебскага раёна сёлетняй восенню дружыннікі разам з участковым вялі сапраўдную вайну з раскрадальнікамі дзяржаўнай маёмасці.*

Бывала, за дзень затрымлівалі па 30—40 зладзеяў. Агародніны канфіскавана больш як на чатыры мільёны рублёў, узбуджана шаснаццаць крымінальных спраў.

### Курсы валют на 11 лістапада:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 6800 | 7080 | 4493 | 4637 |
| "Алімп" | 6860 | 7040 | 4484 | 4662 |
| "Дукат" | 6850 | 7100 | 4500 | 4750 |



Фотаэцюд Сяргея БРУШКО.

**ВЕСТКІ З ПАРЛАМЕНТА**

## ЗАПРАШЭННЕ НА ПОДЫУМ, або Сціплае абаянне асобы

Па ўсёй верагоднасці, калі на Савецкай, 11 не адбудзецца экстраардынарных падзей, у агляднай будучыні кожны прэтэндэнт на чырвонае парламенцкае крэсла стане сам клапаціцца пра свой палітычны імідж. ВС абмяркоўвае змяненні і дапаўненні ў Закон "Аб выбарах народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь" і пакуль у Авальнай зале прэваліруе "кансерватыўны" падыход да выбарчага заканадаўства.

У аснову Закона аб выбарах пакладзены мажарытарны прынцып.

Не выклікала сумненняў і напярэдадні дзён "страсцей на выбарах", што галоўнае пытанне менавіта ў канцэпцыі заканадаўства. Так і сталася. Да канцэптуальных змяненняў частка дэпутацкага корпуса рухалася здалёк і невыпадкова. Найбольш прагматычныя парламентарыі, калі не ўвайшлі ў Авальную залу з партыйнымі білетамі, прынамсі, паспелі ўтварыць уласныя партыі або папоўніць сваімі прозвішчамі самыя розныя партыйныя спісы. Слушнымі падаюцца аргументы аб утварэнні пры змешанай выбарчай сістэме сталічнага парламента (пункт гледжання прыхільнікаў мажарытарнага прынцыпу). Сапраўды, партыйныя спісы склалі б у асноўным мінскія функцыянеры-інтэлектуалы. Заслугоўвае ўвагі і іншая аргументацыя: заблытванне выбаршчыкаў, якім прапануюць прагаласаваць за невядомых людзей, адарванасць дэпутатаў ад мясцовай канкрэтыкі, знікненне ці аслабленне фактару сувязі "дэпутат—акруга", урэшце, пошукі лёгкіх шляхоў у заканадаўчы сход. Між тым, падобныя заўвагі наўрад ці ўспрымаюцца апанентамі. Сутнасць не ў тым, што пасіў "мажарытарыстаў" таксама вялікі. Напрыклад, чаму не паўплывае на якасць заканатворчай работы адсутнасць у ВС прадстаўнікоў дробных партый эліты, або рэгіянальныя інтарэсы не "заслоняць" агульнадзяржаўныя? За кароткі тэрмін Беларусь займела дзесяткі па-банапартысцку настроеных палітыкаў. Дарэчы, пры любым зыходзе выбараў у парламент, пры любой сістэме іх правядзення новыя "партыйцы" не застануцца ў цені. Партыі будуць функцыяніраваць, аднекуль фінансавацца, "ценявыя кабінеты" працягнуць свае пасяджэнні. І ўсё ж захаванне мажарытарнай выбарчай сістэмы — дарагое здавальненне не толькі для партый, а і для асоб.

Колькі слоў аб паартыкульным абмеркаванні. Яно праходзіла напружана, бо "па-за кадрам" пастаянна прысутнічала асноўная дылема: якім стане канчатковы выбар дэпутатаў у адносінах сістэмы. У чацвер у "розным" С.Шушкевіч паспрабаваў зноў аргументаваць неабходнасць прыняцця змешанай канцэпцыі, прывёўшы шэраг довадаў у яе падтрымку. На думку экс-спікера, адзіны "мінус" у мажарытарна-прапарцыянальнай сістэме ў тым, што ў новы склад парламента ўвойдуць прадстаўнікі сталічнай эліты. Аднак станоўчых фактараў значна болей. Па досыць красамоўнай рэакцыі прэзідыума было бачна, што погляды Шушкевіча не падзяляюцца. Пры паартыкульным разглядзе дакумента ўнесена значная колькасць паправак. Нагадаем, што дзевяць артыкулаў былі прыняты на папярэдняй сесіі, прычым у другім чытанні. Для змены канцэпцыі ў прынцыпе патрабавалася галасаванне,каб скасаваць раней прынятыя артыкулы. Аднак парламентарыі пайшлі іншым шляхам. З трыбуны сесіі У.Лeўчык зачытваў паартыкульныя папраўкі, адказваў на пытанні, потым адбывалася галасаванне. Галоўны аргумент старшыні Камісіі: падмена мажарытарнай сістэмы не суадносіцца з 68-м артыкулам Канстытуцыі.

Учора з раніцы на трыбуне ВС зноў быў старшыня галаўной па выбарчаму закону Камісіі У.Леўчык. Ішло абмеркаванне артыкулаў, адпраўленых на дапрацоўку. Яно працягнулася і на дзённым пасяджэнні. Не знайшоўшы паразумення, у прыватнасці, у пытанні аб паўторных выбарах, дэпутаты вырашылі перапыніць спрэчкі. Такім чынам, законапраект будзе разглядацца далей на наступным пленарным пасяджэнні 29 лістапада. "Броўнаўскі рух" у парламенце і па-за яго сценамі працягнецца. Між тым, пад заслону ўчарашняга пасяджэння (дэпутаты вырашылі раней працаваць да 14 гадзін) у Авальнай зале рэзка павысілася палітычная тэмпература. Д.Булахаў прапанаваў разгледзець змяненні і дапаўненні ў Закон аб Канстытуцыйным судзе. Зразумела, з нагоды вядомага рашэння ад 9 лістапада аб узбуджэнні справы аб адпаведнасці з Канстытуцыяй Закона ад 6 лістапада 1994 г. "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб мясцовым самакіраванні і мясцовай гаспадарцы ў Рэспубліцы Беларусь". Грымнуў магутны парламенцкі хор. З.Пазьняк, С.Шушкевіч, У.Заблоцкі, С.Навумчык і многія іншыя дэпутаты рэзка крытыкавалі дзеянні прэзідэнцкай каманды. Гучалі і рэдкія галасы "ў абарону". Усе сталі сведкамі пралога новага супрацьстаяння галін улады, у эпіцэнтры — прэзідэнцкая вертыкаль. Напрыканцы бура эмоцый сцішылася і прапанова Д.Булахава ўсё ж была ўключана ў парадак дня. Але пакуль да яе разгляду дойдзе чарга, ніхто не скажа, якія неспадзяванкі чакаюць грамадства.

Якаў ЯСЭПКІН.

**БЛІЦ-ІНТЭРВ'Ю**

## АДНА АКРУГА — АДЗІН ДЭПУТАТ

*У чацвер Вярхоўны Савет прагаласаваў за мажарытарную выбарчую сістэму. Мы звярнуліся да некалькіх дэпутатаў з просьбай адказаць на пытанне, як яны ставяцца да гэтага рашэння.*

**Міхаіл Казючыц, намеснік старшыні Камісіі па дзяржаўнаму будаўніцтву:**

— Асабіста я галасаваў за мажарытарную сістэму. Вядома, сутнасць яе ў тым, што ад адной выбарчай акругі будзе выбраны адзін дэпутат. Кандыдатаў можа быць прапанавана некалькі і партыямі, і грамадскімі арганізацыямі, працоўнымі навучальнымі калектывамі, воінскімі часцямі. Я думаю, што пры такім падыходзе не будзе асфальтавых мінскіх выбараў, бо ўсе асноўныя палітычныя партыі пераважна сканцэнтраваны ў Мінску.

**Лявон Баршчэўскі (БНФ):**

— Увогуле для Беларускага народнага фронту, калі б ён думаў толькі пра сябе, не мае прынцыповага значэння, якая будзе выбарчая сістэма. Бо БНФ усё роўна зможа мець дастаткова моцную фракцыю ў будучым парламенце пры любым варыянце. Але, калі думаць пра інтарэсы ўсёй дзяржавы, то вельмі важна, каб у Вярхоўным Савеце можна было б сфарміраваць нейкую большасць. Сённяшні Вярхоўны Савет, як бы яго ні клялі і ганілі, мае цвёрдую большасць. Дзякуючы гэтаму прыняты сотні законаў — добрых ці дрэнных. Калі ж здарыцца так, што прыйдзе з паўтары сотні незалежных дэпутатаў, а астатнія будуць уваходзіць у нейкія буйныя фракцыі, то ўявіце сабе, як цяжка будзе прымаць законы ці ўвогуле вырашаць якіясьці пытанні. Я думаю, што памыляецца прэзідэнт, калі думае, што яму выгадна мець слабы Вярхоўны Савет (менавіта Аляксандр Лукашэнка вельмі жорстка настойваў на мажарытарнай сістэме). Магчыма, ён разлічваў, што на нейкім этапе парламент дапаможа прэзідэнту ўзяць частку адказнасці на сябе замест яго. Але ж Вярхоўны Савет будзе бяздзейны і ўся адказнасць ляжа на прэзідэнта.

**Лявон Дзейка (Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада):**

— Наша фракцыя падтрымлівала выбарчую сістэму, пры якой бы палова дэпутатаў выбіралася па выбарчых акругах, а палова — па партыйных спісах. Аднак Вярхоўны Савет зноў жа дзейнічаў у накірунку непавагі прынятай ім жа самім Канстытуцыі. Ён і зараз адмовіў у магчымасці грамадскім аб'яднанням (а іх у нас на Беларусі даволі шмат) вылучаць кандыдатаў у Вярхоўны Савет нават па тэрытарыяльных акругах.

Мне здаецца, калі выбары адбудуцца вясной наступнага года, то жыццё пакажае: перамогуць людзі пад тымі лозунгамі, пад якімі ішоў да выбараў сённяшні прэзідэнт. І хаця яны актуальныя, але барацьба з карупцыяй засталася толькі ў дэкларацыі, навядзенне парадку таксама. Я баюся, што пры мажарытарнай сістэме ў кожнай акрузе пераможуць людзі, якія больш ці менш паспяхова выкарыстаюць вопыт спадара Лукашэнкі ў час яго прэзідэнцкай кампаніі. Гэта тым больш верагодна ў нашы часы, калі насельніцтва знаходзіцца ў вельмі прыгнечаным стане, блізкім да адчаю. Значна змяншаюцца шанцы прыйсці ў будучы Вярхоўны Савет у тых кандыдатаў, якія мысляць канцэптуальна па-дзяржаўнаму.

Вольга ШАЎКО.



## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

"Суперчэннэл" — "Уорлднэт" — "Еўраньюс"



*Дзяжурныя па выпуску перакладчык Ларыса ДУДАРУК, Людміла КАХАВЕЦ, рэдактар Наталля ВАЛАКІДА.*

### ПАГРОЗА КЛІНТАНА

*Біл Клінтан патрабуе адкрыць агонь па баснійскіх мусульманах.*

Прэзідэнт заявіў, што калі ААН не падтрымае гэта патрабаванне, ЗША самі ўвядуць амерыканскія войскі на тэрыторыю Босніі.

### ГЕРМАНІЯ БЕЗ "ЧОРНЫХ ПЛЯМ"

*У Германіі працягваюцца святкаванні, прысвечаныя 5-годдзю падзення Берлінскай сцяны.*

Немцы ўшанавалі таксама памяць загінуўшых яўрэяў. 10 лістапада 1938 года Гітлер выдаў указ аб яўрэйскіх арыштах. Да мемарыяльнага месца ўскладзены вянкі і кветкі. У выступленнях немцаў было падкрэслена, што Германія не дапусціць больш такіх "чорных плям" у сваёй гісторыі.

### ФРАНЦЫЯ СУПРАЦЬ УМЯШАННЯ

*Прэм'ер-міністр Францыі сустрэўся з генеральным сакратаром НАТО.*

Цэнтральным пытаннем сустрэчы стала абмеркаванне абстаноўкі ў Босніі. Францыя асуджае палітыку ЗША ў адносінах да былой Югаславіі і выступае супраць умяшання амерыканскіх войск у грамадзянскую вайну.

### ДАГАВОР "ЗАПРАЦАВАЎ"

*Кароль Іарданіі Садам Хусейн упершыню наведаў з афіцыйным візітам Ізраіль.*

Хусейн сустрэўся з прэм'ер-міністрам Ізраіля Іцхакам Рабінам. На сустрэчы лідэры дзяржаў абмеркавалі нядаўна падпісаны мірны дагавор паміж сваімі краінамі.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

